АДНАДНЁЎКА. Цана 20 гр.

# БЮЛЕТЭНЬ

## ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЫ.

Адрэс Выдавецтва: Вільня, Кіеўская 4—24.

28 верасьня 1932 г.



# Аб супрацоўніцтве Т. Б. Ш. з польскімі грамадзкімі арганізацыямі.

У „Інформацыйным Бюлетэні Т. Б. Ш." ад 6 ліпеня б. г. у аддзеле хронікі мы паведамлялі, што у м. Гарадку Беластоцкага Вокругу адбылася конфэрэнцыя прадстаўнікоў павятовай і ваяводзкай улады з сябрамі гуртка у справе супрацоўніцтва нашых арганізацыяў з польскімі грамадзкімі арганізацыямі.

Падобныя конфэрэнцыі мелі мейсца у Харашчы гэтага ж Вокругу а такжа ў іншых Акругох, як у Ваўкавыскім павеце і Косаве. Ніжэй мы зьмяшчаем перапіску Галоўнай Управы з Беластоцкім ваяводзтвам у гэтай справе.

Нашы адносіны да польскіх грамадзкіх арганізацыяў мы часткова адзначалі у тым жа „Інформ. Бюлетэні" у аддзеле „Акружным Управам і гурткам Т-ва".

Становішча Галоўнай Управы у справе супрацоўніцтва выяўлена ў пастанове Галоўнай Управы на пасӗджаньні з дня 16.VIII б. г. і пісьме да Беластоцкага ваяводзтва з дня 20 жніўня.

Тут мы хочам падрабязьней высьвятліць нашае становішча ў гэтай справе.

Перадусім тыя ці іншыя адносіны паміж Таварыствам і іншымі грамадзкімі арганізацыямі ёсьць справа гэтых самых арганізацыяў, выступаючых як роўныя з роўнымі, таму непажадана ўмешаньне вышэйшай сілы, дзяржаўнай улады— не павінна быць адміністрацыйнага націску.

Не зьяўляючыся арганізацыяй шовіністычнай — Т. Б. Ш. прынцыпова стаіць за супрацоўніцтва беларускіх працоўных масаў з польскімі, на асьветнай ніве. Аднак нельга сказаць, што Т-ва за ўселякую цану і заўсягды павінна супрацоўнічаць з усімі польскімі грамадзкімі арганізацыямі.

Адносіны беларускіх нацыянальных арганізацыяў да польскіх акрэсьляюцца шмат якімі чыньнікамі.

Беларусы у Польшчы амаль зусім пазбаўлены школы ў роднай мове, і стан беларускага школьніцтва з кожным годам пагаршаецца. Беларускія нацыянальна-асьветныя арганізацыі ня толькі не карыстаюцца матар'яльным падтрыманьнем з боку скарбу, але спатыкаюць у сваей дзейнасьці чысьленыя адміністрацыйныя перашкоды. Польскія ж арганізацыі—маючы мацнейшую матар'яльную падставу і большую свабоду дзейнасьці, нават і тыя, якія ня маюць бесапсрэднай мэтай сваей полёнізацыю беларусаў пасрэдна прычыняюцца да іх дэнацыяналізацыі.

У гэтых умовах беларусам і іх культурна-нацыянальным арганізацыям прыходзіцца напружаць усе свае сілы ў кірунку дасягненьня сваіх беспасрэдных культурна-нацыянальных заданьняў і бараніцца супроць чужых уплываў пагражаючых яго нацыянальнаму я.

Супрацоўніцтва з польскімі арганізацыямі да тагож ня можа мець аднабокага характару помачы ці служэньня нашага Таварыства гэтым арганізацыям, а павінна мець характар абапольных услуг.

Тут мы падыходзім да пытаньня аб адносінах польскіх грамадзкіх арганізацыяў і наагул польскага грамадзянства да беларускага культурна-нацыянальнага руху і беларускіх культурна-нацыянальных арганізацыяў. Можа трэ было б пачаць ад зламаньня таго „наставеньня" праціменшасьцёвага, а часам і спэцыяльна працібеларускага вельмі ўплывовых кругаў польскага грамадзянства і агулам польскай прэсы.

Адносіны эндэцыі да меншасьцяў акрэсьляюцца ідэяй Польшчы, як „państwa narodowego" (у сэнсе польскай нацыянальнасьці), з чага вынікае імкненьне да полёнізацыі няпольскіх нацыянальнасьцяў у Польскай дзяржаве. Няпрыхільныя адносіны спэцыяльна да сябе мы спатыкаем і ў санацыйным віленскім „Słowie", якое наогул не прызнае беларускай культуры. Ворган польскай партыі соцыялістычнай „Robotnik" толькі у апошнія часы удзяляе увагі нашым культурным справам у спагадным для нас сэнсе.

Паўтараем, што супрацоўніцтва ня можна насадзіць адміністрацыйнымі загадамі. Яно само спатыкаецца там, дзе ёсьць адпаведныя настроі у грамадзянстве, як гэта мы бачым на зьмешчаным ніжэй прыкладзе Ельцаўскага гуртка ТБШ і мейсцовай стражы пажарнай, і яно будзе разьвівацца толькі пры спагадных умовах праўнага і грамадзкага характару.

З увагі на актуальны характар пытаньня аб супрацоўніцтве просімо гурткі і паасобных сяброў адклікацца у гэтай справе.

# Трэба думаць аб Агульным Сходзе.

Гарачая летняя пара скончылася. Селянін па за працаю на ралі можа больш часу выдзяліць іншым справам. Адною з самых палючых патрэб нашых сябраў, якія пераважна належаць да жыхарства вёскі, зьяўляецца ў сучасны момант падрыхтоўка да Агульнага Сходу Т-ва Б. Ш. Трэба безадкладна урухоміць заняпаўшыя гурткі, залажыць новыя, дзе іх няма, трэба склікаць павятавыя сходы дзеля выбару дэлегатаў і арганізацыі Акружных Управаў.

Ініцыятыву у падрыхтоўцы да павятовага Сходу, там дзе няма Акружнае Управы, можа прыняць на сябе Управа з болей актыўных і рухлівых гурткоў. Тады на яе абавязку будзе: вызначэньне тэрміну Сходу пасьля паразуменьня з суседнімі гурткамі свайго павету, знайсьці адпаведнае памешканьне і даць адказную за Сход асобу. Галоўная Управа, маючы гэтыя дадзеныя паведамляе ад сябе адпаведныя ўлады. Пры гэтым кожная Управа, ці асоба упаважнены на гэта сябра, кіруюцца інструкцыямі Галоўнае Управы і стала інфармуюць яе аб сваіх працах. Акружныя ж Управы вызначаюць у сябе чарговыя Сходы, дзеля вырашэньня, як бягучых спраў, так і усіх пытаньняў зьвязаных з арганізацыяй і працаю Т-ва наогул. На павятовых Сходах выбіраюцца па чатыры дэлегатаў і двух заступнікаў на Агульны Сход у Вільні.

# ХРОНІКА Т-ВА.

## АПОШНІЯ ПАДЗЕІ У БЕЛАСТОЦКІМ ВОКРУЗЕ.

Галоўная Управа атрымала пісьмо ад Беластоцкага ваяводзтва з дня 30 ліпеня б. г. наступнага зьместу:

„У часе апошніх некалькіх месяцаў прадстаўнікі улады агульнай адміністрацыі адбылі рад канфэрэнцыяў беспасярэдна з управамі паасобных гурткоў Таварыства Беларускай Школы у беластоцкім і ваўкавыскім паветах. На гэтых канфэрэнцыях былі абгаварваны справы ізаляцыі гурткоў Таварыства ад уплываў разбураючых і неадказных элемэнтаў і супрацоўніцтва гэтых гурткоў з вядучымі пазытыўную для Дзяржавы дзеяльнасьць польскімі грамадзкімі арганізацыямі, якія ураўнаважаюць статутовымі мэтамі ёсьць зроднныя Таварыству Беларускай Школы.

Вынікі гэтых канфэрэнцый настолькі задаволівалі уладу агульнай адміністрацыі, што управы названых гурткоў ня толькі выразілі поўную гатоўнасьць пабарваньня на грунце ТБШ уплываў неадказных чыньнікаў і супрацоўніцтва з польскімі грамадзкімі арганізацыямі, але нават падкрэсьлілі жывую па іх думцы канечнасьць гэтага дла Таварыства.

Зусім іншае ў гэтым пытаньні становішча заняла Акружная Управа ТБШ у Беластоку, якая, як сьведчыць яе пісьмо да Управаў Гурткоў Вокругу з дня 13. IV. г. г. № 89, на паседжаньні дня 12 чэрвеня г. г. прыняла пастанову, забараняючую Гурткам Таварыства супрацоўніцтва з польскімі грамадзкімі арганізацыямі і забараняючую тым-жа гурткам браць удзел без яе згоды у канфэрэнцыях, скліканых уладамі агульнай адміністрацыі.

Становішча гэтае ёсьць выразна супярэчнае з пастановамі §§ 1 і 2 Статуту Таварыства Беларускай Школы, якія кажуць, што Таварыства Беларускай Школы ёсьць арганізацыя апалітычная і апартыйная і што мае на мэце пашырэньне асьветы сярод беларускай люднасьці.

Улады агульнай адміністрацыі, склікаючы канфэрэнцыі з управамі гурткоў ТБШ і абгаварваючы на іх успомненыя вышэй справы, імкнуліся як раз да таго, каб дзеяльнасьць ТБШ ішла па статутовай лініі і адбывалася у плошчы пашыраньня асьветы сярод беларускай люднасьці.

На абгаварваных канфэрэнцыях апроч таго прадстаўнікі ўлады агульнай адміністрацыі прапанавалі управам гурткоў ТБШ усунуць дагледжаныя тымі уладамі статутовыя неўласьціваасьці у дзяльнасьці гурткоў, дзеля гэтага пастанова Акружной Управы ТБШ у Беластоку, забараняючая управам аддзелаў ТБШ браць удзел у будучыні у канфэрэнцыях, скліканых уладмі агульнай адміністрацыі ударае у паўнамоцтвы гэтых уладаў, прадбачаныя у арт. 34 Тымчасовых Правілаў аб арганізацыях і саюзах (Dz. Urzędowy Min. Spr. Wewn. Nr. 4|1919, poz. 41).

Прыняўшы пад увагу, што Акружная управа ТБШ у Беластоку дапусьцілася у гэтым выпадку паважных статутовых адхіленьняў і выступіла проці праўна угрунтаваных пачынаньняў уладаў агульнай адміністрацыі, Ваяводзкі Урад на падставе 34 арт. Тымчасовых Правілаў аб арганізацыях і саюзах просіць Галоўную Управу ухіліць пастанову Акружной Управы ТБШ у Беластоку з дня 12 чэрвеня г. г у цэлым і завесіць гэтую управу у працы.

Разам з гэтым Ваяводзкі Урад зазначае, што у выпадку невыкананьня гэтага вымаганьня Галоўнай Управай, будзе змушаны скарыстаць у адносінах да Акружной Управы ТБШ у Беластоку з прыслугоўваючых яму паўнамоцтваў прадбачаных у 35 арт. Тымчасовых Правілаў аб арганізацыях і саюзах".

У сувязі з стварыўшымся палажэньнем пагражаючым самаму існаваньню Беластоцкай Акружнай Управы было склікана 16. VIII паседжаньне Галоўнай Управы, якая прыняла наступныя пастановы:

1) „У справе супрацоўніцтва гурткоў ТБШ з польскімі грамадзкімі арганізацыямі заняць наступнае станавішча:

А. Прынцынова нічога ня маючы проці супрацоўніцтва беларускага працоўнага народу з польскім на культурна-асьветнай ніве, у адносінах да супрацоўніцтва гурткоў ТБШ з „Kółkami Młodzieży Wiejskiej" і падобнымі ім польскімі арганізацыямі маем наступныя засьцярогі:

а) ТБШ згодна з §§ 1 і 2 Статуту мае на мэце пашыраць і разьвіваць беларускае школьніцтва і асьвету, а праца „Kółek Młodzieży Wiejskiej" і падобных ім арганізацыяў пры сучасных умовах фактычна зводзіцца да пашырэньня культуры у польскай мове, скуль выцякае супярэчнасьць мэтаў ТБШ і гэтых польскіх культурна-асьветных арганізацыяў.

б) У сучасных адносінах, калі ліквідуецца рэшткі беларускага школьніцтва, масава зачыняюцца гурткі і акружныя управы ТБШ — нам асабліва важна захаваньне роднай мовы і нацыянальных асаблівасьцяў, супрацоўніцтва ж у цяперашніх варунках з вышэй успомненымі польскімі арганізацыямі пагражае ТБШ утратай свайго нацыянальнага твару.

В. Праца ТБШ, выходзячая з рамак сучаснага статуту, вымагала б зьмены статуту ТБШ, і калі б падобныя тэндэнцыі ў паасобных гуртках выявіліся, то гэта мог бы вырашыць Агульны Сход ТБШ.

2) У справе забароны Беластоцкай Акружнай Управай удзелу паасобных гурткоў ТБШ у канфэрэнцыях з уладамі па ініцыятыве апошніх — прызнаць становішча Акружнае Управы няслушным, зазначаючы, што у падобных выпадках у справах перавышаючых компэтэнцыю гурткоў, гурткі ня могуць прыймаць пастановаў бяз згоды Акружнай або Галоўнай Управы.

Галоўная Управа ТБШ уважае, што тактыка прадстаўнікоў улады абмінаньня Акружнай Управы, зносячысь беспасрэдна з гурткамі, нарушае прэрогатывы Акружнай Управы і дэзорганізуе ТБШ.

3) У справе завешаньня Акружнай Беластоцкай Управы Галоўная Управа ТБШ уважае, што застасаваньне так крайней меры ня мае пад сабою дастатачных падставаў у дзеяльнасьці БеластоцкайАкружнай Управы, гэта павяло бы да дэзарганізацыі ТБШ і што статут ТБШ не упаважняе Галоўную Управу да тасаваньня падобнай меры.

Гэтую справу можа вырашыць Беластоцкі Акружны сход, які будзе склікані па скончэньні палявых работ у г. г."

Гэтыя пастановы былі зьмешчаны ў пісьме Галоўнай Управы з дня 20.VIII г. г. да Беластоцкага ваяводзтва

Паміма гэтага, з увагі на важнасьць справы, 23 жніўня была адпраўлена у Беластоцкае ваяводзтва дэлегацыя ў складзе старшыні Галоўнай Управы Ф. Стэцкевіча, сябра Галоўнай Управы М. Марцінчыка і старшыні Беластоцкай Акружнай Управы Я. Грэся.

Дэлегацыя разьвіла падрабязьней сваё становішча ў справе супрацоўніцтва Т-ва з польскімі грамадзкімі арганізацыямі і адношаньне Галоўнай Управы да Беластоцкай Акружнай Управы у сувязі з пастановай яе, як у памянёнай справе, так і ў справе конфэрэнцыяў з гурткамі ТБШ, скліканых уладамі.

Прадстаўнік ваяводзкай улады, заступнік Начальніка Аддзелу Публічнай Бяспечнасьці п. Высокінскі зазначыў, што супрацоўніцтва зьяўляецца працазыкай, а ня ёсьць загадам улады. Улада вымагае толькі, каб арганізацыі Т-ва не вялі агітацыі проці польскіх арганізацыяў, з чым дэлегацыя згадзілася.

П. Высокінскі згадзіўся з тым, што завешаньне Акружнай Управы без замены новай можа ўнесьці дэзорганізацыю у працу Т-ва у Беластоцкім Вокрузе і адзначыў, што уладам ходзіць не аб асабісты склад Управы, толькі аб дзейнасьць яе і што Управа, якая паступала неправідлова ад пэўнага дня можа зьмяніць сваю дзейнасьць у дадатным сэнсе.

Дэлегацыя запрапанавала склікаць Акружны зьезд дзеля выбару новай Управы у восені пасьля заканчэньня палявых работ.

У той жа дзень адбылася паседжаньне Беластоцкай Акружнай Управы з удзелам прадстаўнікоў Галоўнай Управы Стэцкевіча і Марцінчыка, на якім прынята наступная пастанова:

„Акружная Упр. у Беластоку на сваім паседжаньні з дня 23.VIII 1932 г., азнаёміўшыся з пісьмом Беластоцкага Ваяводзтва у Галоўную Управу ТБШ з дня 30.VII. 1932 г. № 2858/32, пратаколам паседжаньня Галоўнае Управы з дня 16 жніўня г. г. і адказам Беластоцкаму Ваяводзтву Галоўнай Упр ТБШ з дня 20.VIII. 32 г. а таксама выслухаўшы справаздачу сябраў Галоўнае Управы Ф. Стэцкевіча і М. Марцінчыка і старшыні Акр. Управы у Беластоку Я. Грэся з інтэрвэнцыі у Беластоцкім Ваяводзтве дня 23.VIII. 32 г. у сувязі з пастановай Беластоцкае Акружнае Управы з дня 12.VI г. г. у справе супрацоўніцтва гурткоў ТБШ з польскімі грамадзкімі арганізацыямі і бараньня удзелу у конфэрэнцыях сябрамі гурткоў з прадстаўнікамі ўраду — пастаноўлена прызнаць, што гурткі ТБШ ня могуць ухіляцца ад конфэрэнцыяў, скліканых прадстаўнікамі ўлады.

У справе супрацоўніцтва Т-ва Б. Ш. з іншымі грамадзкімі польскімі арганізацыямі прыняць пункт гледжаньня Галоўнае Управы, выказаны ў пастанове Галоўнае Управы з дня 16 VIII. Аб гэтай пастанове паведаміць усе гурткі ТБШ беластоцкага вокруга".

Галоўная Управа пасьля конфэрэнцыі дэлегацыі яе з прадстаўніком Беластоцкай ваяводзкай улады дня 23 жніўня лічыла, што ўсе пытаньні закранутые ў пісьме ваяводзтва з дня 30.VII г. г. высьветляны задавальняюча, аднак 27.VIII атрымала ад Беластоцкага Ваяводзтва пісьмо, у якім яко справу супрацоўніцтва гурткоў ТБШ з польскімі грамадзкімі арганізацыямі, маючымі зродныя мэты, лічыць адчыненай.

Галоўная Управа будзе весьці далейшую афіцыяльную перапіску і ў выпадку патрэбы рабіць адпаведныя крокі у мэтах захаваньня нармальнай працы Т-ва ў Беларускім вокрузе.

### З БЕЛАСТОЦКАЙ АКРУЖНАЙ УПРАВЫ.

— З усіх застаўшыхся „жывымі“, гурткі Т-ва у Беласточчыне працуюць найактыўней. Ня маючы пакуль што пад рукою поўных даных аб стане арганізацыі, агранічымся на гэты раз апублікаваньнем таго, што ёсьць у Гарадоцкай гміне, адначасна зварочваемся да Акружн. Управы у Беластоку прысласць поўныя даныя паводле анкет Галоўнай Управы.

Гарадоцкая Гмінная Управа Т. Б. Ш., Беластоцкаго павету абыймае 196 сяброў, у гэтым ліку — 35 кабет і 161 мушчын. Яна абыймае 8 гурткоў: Гарадоцкі, Валілаўскі, Бялевіцкі, Мелешкоўскі, Зарэчанскі, Песчаніцкі, Залуцкі і Навасёлскі. У вышэйуспомненых гуртках — 156 сяброў запраўдных і 40 дапамагаючых. Сацыяльны склад наступны: 126 сялян і 70 работнікаў розных прафэсій, як муляры, сьлесары, краўцы і кавалі.

Гарадоцкі гурток Т. Б. Ш. мае драматычную, харавую і музыкальную сэкцыі. Мялешкаўскі мае толькі драматычную сэкцыю.

— Язэп Грэсь, старшыня Акружной Управы Т ва у Беластоку, прыслаў нам наступныя весткі з жыцьця Т. Б. Ш. у Беласточчыне:

— На арганізацыйным сходзе у вёсцы Мялешках (шкада, што не пададзена калі адбыўся гэты сход; у далейшым трэба заўседы аб гэтым пісаць—Рэд.), якім кіраваў старшыня Акр. Упр., па ініцыятыве апошняга быў адсьпеваны гімн „Ад веку мы спалі“. Паліцыянт аб гэтым данёс рапартам старасьце, які загадаў пястарунку запісаць пратакол, што і было зроблена. Пратаколы былі зроблены на паасобных сябраў гуртка у Мялешках а таксама і на старшыню Акр. Упр., што і пашкодзіла сьпярша у працы. Але цяпер праца разьвіваецца што раз то мацней, ня гледзячы на тое, што для аднаго дазволу на вечарыну трэба было падаваць прашэньне аж 3 разы і то без рэзультату. Стараста не прызнае пасярэдніцтва Акружнай Управы і хоча, каб кожны гурток зварочваўся асобна.

— У в. Пясчаніках адбыўся сход (таксама не пададзена калі.—Рэд.), дзе пастанавілі падаць да старосты прашэньне, каб дазволіў склікаць агульны сход сялян в. Пясчанікаў з мэтай зрабіць сьпісы дзяцей школьнага году і парупіцца аб адкрыцьці пачаткавай, беларускай урадавай школы. Прынята пастанова проці закрыцьця бел. школ і гімназіяў, а таксама проці забароны агульнага зьезду ТБШ. у Вільні. Прынята пастанова аб тым, каб заможнейшыя сябры давалі днёўкі 2 зл. для Т-ва, каб касіць лугі і гэтымі грашмі заплаціць залеглясьці за газэты. Пастаноўлена запрэнумараваць Бюлетэнь.

— На Вялікдзень у в. Залукі і Мялешкі былі зладжаны спэктаклі. Залі былі перапоўнены. У Залуках даход выносіў — 40 зл. у Мялешках— 80 зл.

— Беластоцкая Акр. Управа зьвярталася да Сакольскага Старосты, каб дазволіў арганізаваць гурток у вёсцы Боркі, але Стараста адмовіў матывуючы тым, што гэтая вёска не належыць да поля працы Беласт. Акружнай Управы, а члену Акр. Упр. С. Чабану сказаў, што тады дазволіць, калі у Горадні будзе Акр. Управа. Паліцыя з свайго боку распытывала Чабана, скуль ён знаецца з старшынёй Акр. Управы, як папаў у яе члены і г. д.

**Да ўсіх гурткоў Беластоцкаго Вокругу.**

Кожны гурток павінен даць справаздачу аб сваей дзеяльнасьці ад пачатку свайго існаваньня для Бюлетэню Т-ва.

Кожны г-к павінен аплаціць Бюлетэнь на 10 нумароў уперад.

Кожны гурток павініен даваць карэспандэнцыі аб сваей працы і аб адносінах сяброў.

Кожны г-к павінен падняць справу беларускай школы і курсаў для дарослых.

Кожны г-к павінен імкнуцца залажыць такія-ж гурткі у суседніх вёсках, каб як найшырэй ахапіць працу на культурна асьветнай ніве.

Старшыня Акр. Упр. у Беластоку Язеп Грэсь.

**— Пісьмо сялян в. Наваселак, Беластоцкага павету.** Галоўная Управа Т-ва Бел. Школы атрымала наступнае пісьмо:

„Мы грамадзяне вёскі Навасёлкі просім Галаўную Управу прысласць нам 30 штук буквароў, каторыя патрэбныя нам для навукі нашых дзяцей у раднай мове. Гэтым мы хочам унікнуць полёнізацыі нашых дзяцей, якія вучацца у польскай школе. Нашыя дзеці чуюць у хаце родную мову, гаворачь на ёй – таму уважаем, што лепей будзе вучыцца у роднай, чым у польскай мове.

Далей просім прысласць як найхутчэй адказ на нашае пісьмо. Напішыце нам колькі будуць каштаваць гэтыя буквары. Дня 24.VII 32 г.“

Галоўная Управа выслала наступны адказ на гэтае пісьмо:

„Шчыра вітаючы Вашу думку пашырэньня роднае асьветы, роднае беларускае граматы, Галоўная Управа ТБШ з поваду просьбы Вашае прысласць 30 буквароў, раней выкананьня гэтае просьбы, хацела-бы зьвярнуць вашую увагу, што для пачатковае граматы трэба мець не адзін толькі „буквар“. Каб стаць больш-менш граматным, трэба прайсьці не адну толькі самую пачаткавую кніжку, а некалькі, разьлічваючы пры гэтым не на адзін год працы, а наймен п на дватры гады сталай, упартай працы „саматугам“ ці пад чым-колечы кіраўніцтвам. Калі у вас ёсьць некалькі групаў жадаючых самастойна вучыцца па беларуску, дык для кожнае групы трэба мець і адпаведныя кніжкі Іншая справа, калі ніхто яшчэ ня вычуся па беларуску: тады ўсім трэба даць і аднолькавыя кніжкі.

Вось-жа, маючы усё гэта на увазе, Галоўная Управа і просіць Вас зараз-жа паведаміць, колькі і якіх у Вас есьць групаў вучняў і вучаніцаў і колькі для кожнае прысласць экзэмпляраў кніжак. Поўны камплект кніжак пачатковае беларускае граматы складаецца з наступных кніжак: 1) у першым годзе навучаньня чытаньню і адчасьці пісьму праца ідзе па кніжкам: „Зорка“ частка І, цана 70 гр. і „Зорка“ частка II, цана 1 зл.; 2) у другім годзе патрэбна кніжка „Родны

Край", частка I, цана 1 зл. 20 гр.; 3) у другім і трэцьцім годзе адначасна з навучаньнем чытаньню йдзе навучаньне пісьму па кніжцы С. Паўло віча: „Пішы самадзейна", цана 2 зл. 50 гр., пры выпісываньі праз Галоўную Управу або ад аўтара (Wilno, ulica Filarecka 22-5) каштуе 1 зл. без перасылкі; 4) далейшае чытаньне йдзе па „Роднаму Краі" частка II—цана 3 зл. і частка III і IV—цана 3 зл. 50 гр.

Дзеля азнаямленьня прысылаем Вам па аднаму экзэмпляру усіх кніжак.

Трэба да гэта яшчэ дадаць тое, што імкнучыся саматугам здабываць асьвету, ня трэба ніколі забываць аб тым, што галоўнай нашай задачай ёсьць дамаганьне беларускай пачатковай школы на кошт ураду.

### ВАЎКАВЫСКІ ПАВЕТ.

— Дня 16-VI г.г. адбыўся агульны сход РАМАНАЎСКАГА гуртка Т-ва Б. Ш. на якім была прынята рэзалюцыя, у якой сябры Раманаўскага гуртка Т. Б. Ш. дамагаюцца адчыненьня пачатковых беларускіх урадавых школ, пэратварэньня існуючых польскіх у беларускія, выступаюць проці закрыцьця Віленскай Вучыцэльскай Сэмінарыі ім. Фр. Багушэвіча і проці пагрозы закрыцьця Віл. і Навагр. бел. гімназіяў, а таксама проці шкоднай для бел. адраджэнскага руху працы Луцкевіча - Астроўскага.

У канцы рэзалюцыі:

„Агульны сход сяброў Раманаўскаго гуртка Т. Б Ш. у дню 16.VI—1932 г. заклікае Акружную і Галоўную Управу да актыўнае працы у тым кірунку, у якім яна працавала да гэтага часу.

Бяручы усе вышэйсказанае пад увагу, усе пералічаныя сумныя зьявішчы, мы сябры Раманаўскага гуртка дамагаемся вольнага і беспераппкоднага развіцьця культурна-асьветнае працы у Гуртках Т. Б. Ш. наагул".

Рэзалюцыя мае 10 подпісаў.

— ВЯЛІКА-ГРЫНКАЎСКІ гурток Т.Б Ш. Ваўкавыскага пав., згодна з адказам на анкету Гал. Упр, складаецца з 12 сяброў, мае бібліятэку з 219 кнігамі, драматычная сэкцыя ад часу заложаньня гуртка зладзіла 3 спэктаклі. Складкі плоцяцца нерэгулярна.

На трэцьці дзень Вялікадня гурток ладзіў спэктакль-вечарыну. Былі пастаўлены: „Боты" і „Зьбянтэжаны Саўка". Зацікаўленьне спэктаклям было вялікае. З прычыны малага памешканьня не хапіла нават месцаў. Глядзельнікаў было каля 100 асоб.

— ЕЛЬЦАЎСКІ ГУРТОК Ваўкавыскага павету нам піша:

„Наш гурток заложыўся ў 1926 годзе, з сядзібай у вес. Палаўшчыне, кіраўнікам якога быў А. Грыневіч.

Масавыя агрышты у часе ліквідацыі Грамады, у тым ліку паасобных сяброў гуртка, устрымалі на доўга яго дзейнасьць і здавалася гурток умёр, замерла праца, падупаў дух. Гэтак і было, толькі ня памёр гурток. Запаляны агонь у грудзёх нашай моладзі, часова прытушаны ня згас. Іскра культурнага адраджэньня беларускіх працоўных мас усё тлела і тлела... у сэрцах — рвучых што раз вышэй — беларускай моладзі.

Тры гады прышлося нам чакаць, пільнуючы, каб хаця гэта іскра не патухла. Уваношку, у 1929 годзе родзіцца думка аднавіць гурток. Зьбіраем подпісы новых сяброў (сабралі 57) пішам заяву у Галоўную Управу, хутка адтуль дастаем сяброўскія білеты, інструкцыі і г. д. Склікаем арганізацыйны сход, выбіраем управу — і гурток з вялікай энэргіяй бярэцца за працу. Перш-на-перш наймаем будынак у вёс. Ельцаўшчыне мураваны Народны Дом, які мусялі амаль грунтоўна адрамантаваць у сярэдзіне: улажылі цэмантовы памост, ўставілі вокны, палаталі страху, направілі комін, збудавалі правізарычную сцэну, выбялілі, прыхарашылі вянкамі і нацыянальнымі сьцягамі, завесілі партрэты беларускіх паэтаў — Я. Купалы і Коласа. Дарогай ахвяры сабралі да 300 кніг на бібліятэку. Бібліятэка-чытальня мелася месьціцца ў Народным Доме. Выбралі рэфэратную і драматычную сэкцыі. Апошняя рыхтавалася да пастаноўкі спэктакляў, ужо йшлі рэпэтыцыі, маніліся паставіць на другі дзень Каляды. Паслалі паданьне ваўкавыскаму старасьце аб дазволе, разаслалі запросіны—чакаем. Рэпэтыцыі ідуць далей. Прыйшоў дзень пастаноўкі — адказу няма. Палудзень, адвячорак — адказу няма. Зьбіраецца публіка з далёкіх за 10 вёрст вёсак. Вечар. Прыйшла гадзіна пастаноўкі. Публікі гібель, а адказу ніякага, як няма так няма. Госьці-публіка пачалі гнеўна пабурквавіць, бязумоўна па адрасу адміністрацыі. Які жаль, якая была шкода, што ўсенька было зроблена, гатова, моладзь галодная прышла здалёк, каб хоць крыху пасілкавацца духам, а тут маеш — жарты з нас строяць... Ужо мінуюць 15 прайшло цераз вызначаную гадзіну пастаноўкі спэктаклю, як паліцыянт прынёс ад п. Старосты паперку з забаронай... Гэта выглядала на жарт... груба ардынарны жарт з боку п. Старасты Эўстахевіча. Моладзь далёкая пайшла дамоў, пяючы бадзёрна беларускія песьні — свая, пасходзіўшыся па хатах, талкавала аб польскай дэмократычнай Конституцыі, законах, Вэрсалскім трактаце...

Пасьля адбыліся арышты больш дзейных сяброў, як С. Шчыглінскага і старшыні Лёшкі, роўначасна пэратраслі манаткі, робячы рэвізіі ў загадчыка бібліятэкі—чытальні М. Бакача і сакратара Ляхоўскага.

Аднак цьвёрды дух моладзі не зламаўся. Пішам ізноў паданьне да п. Старосты аб дазволе зладзіць спэктакль на запускі 1930 г. Але ізноў дасталі такі самы адказ з забаронай ня толькі ўжо ладзіць спэктакль у Народным Доме, але і рабіць сходы гуртка. Калі першы раз прасілі дазволу, дык дзеля таго, што ў нас быў адзіны працэнзураваны экзэмпляр „Зьбянтэжанага Саўкі" дык мы толькі далі п. Старосьце пераглядзець і прасілі зьвярнуць, што староста затрымліваючы паданьне і зрабіў. За тое адмоўны адказ матывуе тым, што не далучылі экзэмпляру п'есы. Другі адмоўны адказ матываваны, як бачым, інакш, мяноўна, што дом паграже публічнай бяспечнасьці і ня мае вымаганых правіламі 4-мэтровай вышыні, 3-х выходных дзьвераў і гасілкі, тады як уся-

кія польскія колы ладзяць прадстаўленьні ў звычайных нашых хатах, ці гумнах — абы папольску.

Цяжка было. Здавалася, што вырвуць у нас адзіны шлях змаганьня з нядоляй беларускай вёскі — шлях культурна-прасьветнай працы. Запалоханыя некаторыя сябры, як сэкрэтар П Ляхоўскі зьвярнулі білеты, скарбнік К. Багдановіч адмовіўся поўніць абавязкі скарбніка, старшыня Ф. Лешка паехаў у Клецкую беларускую гімназію давучвацца. Гэтак уся управа развалілася Гурток застаўся пустапасам. Адзіным лучнікам, як цэмант, асталася бібліятэка з загадчыкам, якая месьцілася ў прыватным памешканьні апошняга. З бібліятэкі карысталіся сябры расцярушаныя па вёсках; карысталіся школьнікі, карысталася моладзь з іншых валасьцёў.

Апроч чытаньня кнігаў сябры зьбіралі прыватна ўскладчыну, ці то грашыма, ці прадуктамі, і гэтым памагалі бедным вучням свайго павету, як Мазырку ў Клецкай беларускай гімназіі і іншым.

Восеньню 1930 г. ў часе выбараў да Сойму зноў пракаціліся хваляй арышты сяброў нашага гуртка — Шчыглінскага Сьцяпана, Бакача Міколы, Амшэя Міколы, Петруля Сьцяпана і многа іншых. Некаторых выпусьцілі хутка, а іншых трымалі па тыдні тры ў вастрозе.

Міма ўсяго гурток трымаўся, бачыў за працай, як Галоўнай, так і Акружнае Управы і кожын раз пасылаў на зьезд сваіх прадстаўнікоў: у 1931 г. да Беластоку на Акружны Зьезд, які не адбыўся, пасьля таго да Вільні на агульны зьезд, дзе нашы прадстаўнікі былі арыштаваны— адзін у Ваўкавыску, а другі ў Вільні.

Увапошку ходзяць чуткі, што у нашай паветовай адміністрацыі будзе перамена. Прыяжджае новы Стараста. Мы складаем вялікія надзеі. І праўда, калі нашыя прадстаўнікі вярнуліся з Акружнога Зьезду, які адбыўся у Беластоку ў пачатку г. г. і паінфармавалі, што зьезд адбыўся, калі быццам паказалася першая пралеска цяплейшых дзён у беларускай культурна-асьветнай працы, склікаем агульны сход гуртка. Выслухалі справаздачу аб дзейнасьці гуртка, справаздачу дэлегатаў з Акружнага Зьезду, выбіраем новага загадчыка бібліятэкі-чытальні у асобе Алеся Амшэя, вызначылі новае памешканьне для бібліятэкі у в. Нізяны. Цераз тыдзень склікаем другі сход: выбралі новую Управу Гуртка, на старшыню — Язэпа Амшэя, на сэкрэтара — Міколу Бакача, абое з вёскі Нізяны, на скарбніка— Зінаіду Ляўковіч з вёс. Мацеяўцы.

19 красавіка пішам п. Старосьце паданьне аб дазвол здадзіць спэктакль. Гэтым разам пашанцавала, хутка дасталі афіцыяльны дазвол. Моладзь ажно захоплена радасьцяй пры працы. Пашлі з вялікай ахвотай бэзінтэрасоўна, хто з рыдлёўкай, хто з сякерай, хто паехаў па дошкі і г. д. Сябры сталяры ахвярна зрабілі новую сцэну, 16 сямі-мясцовых лавак, сяброўкі ізноў заняліся прыхарошваньнем салі: выбялілі. вычысьцілі, прыбралі зялёнымі жывымі вянкамі, нацыянальнымі сьцягамі, злажылі палатна, уфарбавалі, пашылі заслону...

У гэты час драматычная сэкцыя рыхтавалася да пастаноўкі п'ес Родзэвіча „Зьбянтэжаны Саўка" і „Пасланец". Дня 2 траўня г. г. адбыўся першы беларускі нашага Гуртка спэктакль. Гасьцей-публікі па запросінах было столькі, што не маглі адразу ўтоўпіцца у салі, дзеля таго муселі два разы адыграць. Публіка — выключна моладзь — зыйшоўшыся з аддеглых за 15 вёрст вёсак, горача вітала артыстаў-аматараў, якія без закідаў выканалі свае ролі.

Ажыўшы дух моладзі рвецца да працы, падаем паданьне да Ваўкавыскага Старосты аб дазвол зладзіць спэктаксь на 19 чэрвеня: дасталі дазвол. Дня 19 чэрвеня адбыўся другі чародны беларускі спэктакль нашага Гуртка. Ставілі „Сурдут і сярмяга" Гутоўскага, таксама як і першы раз муселі адыграваць два разы, пасьля спэктаклю адбыліся скокі.

Сябры стражы пажарнай у вёсцы Канюхох Падорскай валасьці, якія былі на спэктаклі, прыслалі запросіны да нашага гуртка, просячы паставіць гэты самы спэктакль у іх вёсцы ў гумне Васіля Крышчыка, на што гурток згадзіўся. Сябры стражы пажарнай у гумне зрабілі выгодную сцэну, прыбралі зеляньню. Спэктакль адбыўся 19 ліпеня з найбольшым пасьпехам. публікі было вельмі шмат, якая шчыра вітала нашых артыстаў, несучы якнайлепшае ўражаньне ў глухія куткі беларускіх вёсак.

— Дня 6 сакавіка 1932 году адбыўся сход Ельцаўскага г-ка Т-ва Б. Ш., на якім было прысутных 20 асоб, з агульнага ліку 44. Падаём некаторыя пастановы сходу, якія характэрызуюць дзельнасьць гуртка і могуць паслужыць прыкладам для другіх. Між іншым пастаноўлена: „залегалізаваць паўторна бібліятэку—чытальню, пераносячы яе у другое памешканьне; вызначыць другога кіраўніка бібл.-чыт.; выдаваць кніжкі для сяброў гуртка ўносячых сяброўскія складкі без залогу; для не сяброў г-ка выдаваць кніжкі пры унясеньні у бібліятэку залогу у суме 1 зл.; аблажыць сяброў бібліятэкі аплатаю у суме 5 гр. ад кожнае прачытанае кнігі; аплату ад кожнае кнігі зьбіраць да тых пор, пакуль ня будзе сабрана 15 зл., якія пойдуць на пераплятаньне кніжак; выпазычаць кніжкі ня больш як на два тыдні, у разе-ж пратэрмінаваньня звароту кнігі адлічыць на карысьць бібліотэкі з віноўнага палавіну залогу; прыступіць да акуратнага уношаньня сяброўскіх складак; аднавіць стараньні аб залегалізаваньні Народнага Дому у старым будынку".

— Агульны сход гуртка з дня 6 траўня паміж іншым даручыў Управе зрабіць падпісную лісту дабравольных ахвяр на куплю радыё-апарату. Сабрана 133 зл. 70 гр., апроч гэтага ад складак і спэктакляў у касе было 125 зл. 45 гр., разам 259 зл. 15 гр. Дня 25.VІІ Гурток купіў радыё-апарат за 350 зл. Заплаціў гатоўкай 250 зл., а на 100 зл. даў вэксаль

### З КОСАЎСКАГО ПАВЕТУ.

— У в. Блізкай, Ражанскае вол., як піша нам адзін з сяброў Т. Б Ш., такая сякая праца вядзецца. За год пастаўлены 4 спэктаклі. Цяпер адрамантаваны Народны Дом, заля якого можа памясьціць да 200 і болей асобаў. Бібліятэка, як шмат дзе, у заняпадзе. Працы спакойнае няма.

Віною гэтаму перашкоды. 6 мая меліся ставіць „Жыдоўку выхрыстку“ з украінскага, але забаранілі. Нават вясковыя забавы, як „музыкі“ адбываюцца за дазволам камэнданта пастарунку. Пакуль існуе Акр. Управа праца Т ва усё ж не спыняецца“.

### У СЛОНІМСКІМ ПАВЕЦЕ

— Нам пішуць: „У слонімскім павеце ТБШ амаль зусім зруйнована. Усе жыцьцяздольныя гурткі зьліквідаваны. З астаўшыхся частка зьлік відавалася сама сабою, часам адсылаючы білеты да Старостыва; частка спыніла усялякую дзейнасьці, так што цяпер—калі-б што і рабіць—дык трэба пачынаць працу нанава. З 60 гурткоў, яшчэ калі нікалі ставяцца спэктаклі і болей менеей існуюць бібліятэкі у Востраўскім і Смаўжоўскім г-ках Міжавіцкае воласьці, у Яруціцкім — Дзевяткаўскае і Дзешкаўскім — Старавейскае. Апрача беларускіх кніжак у бібліятэках ёсьць расейскія, украінскія і польскія. Што да працы яна агранічваецца найболей каля пастаноўкі спэктакяў. Моладзь імі пікавіцца. У вапошнія часы не даюць ладзіць спэктакляў на фэсты, дзеля таго. што зьбіраецца шмат народу.

У канцы красавіка зачынены Азярніцкі гурток, які можна было-б залічыць да найлепшых з існуючых. Апрача спэктакляў дома, час-ад-часу выяжджалі у другія вёскі. Мелі радыё. Была досыць абшырная бібліятэка. Повадам паслужыла быццым радыё, але хто іх разьбярэ. Здаецца з радыям усё было ў парадку. Прычынаю развалу Т. Б. Ш. у Слонімскім павеце — ліквідацыя Акружной Управы, што пры нястачы адпаведных працаўнікоў вельмі шкодна адбіваецца на працы Т-ва“.

АД РЭДАКЦЫІ: Просім сяброў Т. Б. Ш у Слонімскім пав. напісаць нам, у якіх мясцовасьцях члены Т. Б Ш. самі занясьлі білеты у Староства і чаму так зрабілі.

---

Публікаваньне вестак аб стане і дзеяльнасьці гурткоў Т-ва дае магчымасьць усёй нашай арганізацыі і шырэйшым народным масам — з'ор'ентавацца у агульным стане Т ва, аб перашкодах, якія стаяць у яго працы, аб тым, як гэтыя перашкоды ломяцца і пракладаецца шлях барацьбы за асьвету для шырокіх народных мас у іх беларускай мове. Дзякуючы гэтаму ёсьць магчымасьць параўнаваць свае высілкі з высілкамі другіх, дзяліцца дасьведчаньнямі, зьвязываць у цэлае тое, што робіцца па раскіданых вёсках і гарадах.

Галоўная Управа Т-ва думае, што ей ня прыдзецца у гэтай справе яшчэ раз зварочвацца да членаў і гурткоў Т. Б Ш. і што кожны г-к прышле вестку аб сабе і сваей дзеяльнасьці.

# У справе беларускіх гімназіяў

Пагроза самастойнаму існаваньню Віл. Бел. Гімназіі паўстала у м. траўні г. г.. калі Віленскі Школьны Куратар запрапанаваў Бацькоўскаму Камітэту, як канцэсыянеру Гімназіі, перадаць яе на ўласнасьць Дзяржавы, як паралельныя клясы пры адной з польскіх гімназіяў. Калі гэты праект перайшоў на разгляд Агульнага Сходу Бацькоў (27.V), ён аднагалосна быў адкінуты усімі прысутнымі.

Наступны надзвычайны Сход Бацькоў 26 чэрвеня таксама аднагалосна ухваліў захаваць Гімназію, ак прыватную, бо ператвараньне яе ў паралельныя клясы ці філію Дзяржаўнай, нават санацыя уважала і тлумачыла толькі як пераходную ступень да поўнае ліквідацыі. На тым жа Сходзе санацыйны Прэзыдыюм Бацькоўскага К-ту проста пакінуў усе справы гімназіі Агульнаму Сходу і падаўся ў адстаўку. Гэта пад той час, калі да падачы кандыдатуры на Дырэктара пазаставала толькі тры дні!

Новаабраны Прэзыдыюм на чале з гр. М. Кэнэчам з першых крокаў спаткаў няпрыхільныя да сябе адносіны, як з боку беларускае санацыі, так і з боку Віленскае адміністрацыі. Ні водзін кандыдат на дырэктара (С. Паўловіч і В. Багдановіч) ня быў зацьверджаны; Ваяводзтва пачало трэбаваць звальненьня памешканьня; Астроўскі дамагаецца, каб Бацькоўскі Камітэт пачаў рабіць захады аб упаньстваўленьні Гімназіі і нават самачынна склікае Агульны Сход Бацькоў. Бацькоўскі К-т апратэставаў і адклікаў гэты сход. Усе прапазыкі Астроўскага К т рашуча адкінуў, бо быў зьвязаны дзьвюма пастановамі Агульных Бацькоўскіх Сходаў.

Каб пачаць школьны год, быў запрошаны часова нясьці абавязкі дырэктара вучыцель гр. Я. Шнаркевіч, які пачаў уступныя экзамены з большасьцяй старых вучыцялёў, апрача Астроўскага і Міхалевіча. Санацыя-ж са свайго боку рабіла усе высілкі, дзеля рэалізацыі таго, што спачатку назвала „непрызвайтай прапазыкай“ (Белар. Звон). З гэтаю мэтаю 7 верасьня спаўняючы абавязкі дырэктара Шнаркевіч рапт ўна у вадзін дзень склікае „Агульны Сход, на якім выбіраецца новы Бацькоўскі К-т і прымаецца пастанова аб прыняцьці ўсіх прапазык школьнай ўлады.

З 15 верасьня гімназія робіцца беларускай філіяй польскае гімназіі ім. Славацкага, атрымоўвае 9 этатаў, кіраўніка філіі Р. Астроўскага і на дадатак А. Міхалевіча.

У такім самым праўным палажэньні, як Віленская, апынулась і Навагрудзкая гімназія.

## ФОНД СТЫПЭНДЫЯЎ У БЕЛАРУСКІМ КААПЭРАТЫЎНЫМ БАНКУ Ў ВІЛЬНІ

Беларускі Каапэратыўны Банк у Вільні, прымаючы пад увагу цяжкое матарыяльнае становішча беларускае вучнеўскае моладзі, на Надзвычайным Агульным Сходзе, які адбыўся 29 лістапада 1931 г., на прапазыку Наглядняе Рады Банку, заснаваў Фонд стыпендыяў імя Беларускага Каапэратыўнага Банку.

Мэтаю заснавачага Фонду зьяўляецца дапамога бяднейшаму беларускаму грамадзянству, а перадусім сябром Банку, — даць асьвету сваім дзецям у беларускай школе.

Сродкі Фонду Агульны Сход пастанавіў здабыць 1) ад самаападаткаваньня сяброў Банку, галоўным чынам пры выдачы пазык, і 2) шляхам прыняцьца дабравольных ахвяраў як ад сяброў Банку, так і ад розных асобаў і арганізацыяў.

Ініцыятары Фонду мелі на думцы стварэньне з гэтага Фонду не якой-колечы прыпадковай дапамогі, а штосьці больш сталае, разьлічанае на доўгія гады, і дзеля гэтага ухвалена падзяліць сродкі фонду на дзьве часткі: 1) жалезны капітал, які пазастаецца ў Банку, як вечны ўклад, процэнты з якога йдуць на выдачу дапамог, і 2) абаротны капітал, які і пойдзе для раздачы ў дапамогі. Прымаючы аднак пад увагу палючую патрэбу ў дапамогах у сучасны момант, падзел гэты зроблены ў той спосаб, што 70% сум, зьбіраных з самаападаткаваньня, залічаюцца ў абаротны капітал, г. з для раздачы ў дапамогі, і толькі 30% ідуць на тварэньне жалезнага капіталу, але ў апошні залічаюцца за тое і ўсе дабравольныя ахвяры.

Кіраўніцтва Фондам знаходзіцца ў руках адумыснага Камітэту, у склад якога ўваходзяць усе сябры Наглядная Рады і Управы Банку і 5 асобаў, выбраных на гадавым Агульным Сходзе сяброў Банку. На свае паседжаньні Камітэт мае права запрашаць, з правам дарадчага голасу, прадстаўнікоў беларускіх школаў, бацькоўскіх камітэтаў і беларускіх культурна-асьветных установаў.

23 траўня б. г. адбылося першае паседжаньне Камітэту, на якім, пасьля разгляду паступіўшых прашаньняў аб дапамозе на узнос платы за навуку у Віленскай гімназіі, галоўным чынам застанавілася над пытаньнем аб узмацаваньні сродкаў Фонду.

Пасьпех распачатае акцыі залежыць ад таго, як хутка будзе тварыцца жалезны капітал, які павінен стаць яе фундамэнтам, а значыцца ўсё знаходзіцца ў залежнасьці ад ахвярадаўства нашага беларускага грамадзянства.

## СТАН АСЬВЕТЫ У Б. С. Р.

Падаем паводле замежнае прэсы некалькі дадзеных аб стане школьніцтва у Б. С. Р.

У бягучым 1932 годзе там існуюць:

Беларуская Акадэмія Навук; 38 навуковадасьледчых устаноў; 32 вышэйшыя інстытуты з лікам студэнтаў — 14.421;

171 сярэдніх школ з лікам вучняў—49.000;

237 спэцыяльных школ з лікам вучняў — 51,472; віжэйшыя 4 — 7 гад. пачатковыя школы ахопліваюць — 908.625 вучняў.

Процант ахопу дзяцей 8—11 год школьнай навукай узрастае наступным парадкам:

у 1914 г. — 43,9%
„ 1932 г. — 98,2%
на 1-І 1933 г. меркуецца 100%.

Па перапісу 1897 г. у межах Б. С. С. Р. было толькі 30% пісьменнага населеньніцтва ва узросьце од 8 да 45 год. Лік пісьменных шпарка павялічваецца:

у 1920 г. да 50%
„ 1932 г. да 95%.

На І.1 1933 г. праектуецца ахапіць усе 100%.

На 1. I 1933 году у Б. С. С. Р. павінна быць:

47 навукова-дасьледчых устачоў;

44 вышэйшых інстытутаў (унівэрсытетаў і г.д.) з лікам студэнтаў 15 132;

250 фабрычна-заводзкіх вучылішч і тэхнікумаў з лікам вучняў — 54.250. Апроч таго у саўгасных і калгасных вучылішчах прадбачыцца на 1. I. 1933 году 29.330 вучняў;

Агульнай сярэдняй асьветай мае быць ахоплена 189.500 вучняў;

61 рабочых факультэтаў (рабфакаў) з лікам вучняў — 15.750;

1.411 сельскіх дамоў социялістычнай культуры;

81 раённых дамоў социялістычнай культуры:

158 клюбаў (апроч калгасных);

16 тэатраў;

404 кіно-стацыянараў і 714 кінoперасовак і інш.

# БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА Ў ЛАТВІІ.

Дзякуючы дэмакратычнаму ладу ў Латвіі, усе меншасьці, у тым ліку і беларуская (згодна ўрадаваму перапісу 1925 г. беларусоў у Латвіі 37.000) карыстаюцца правам болш-менш свабоднага нацыянальна-культурнага разьвіцьця. Хаця ў мінулым годзе ўрадавая палітыка адносна меншасьцяў троху заламалася, аднак агулам бяручы, увесь час з самага заснаваньня Латвійскае Рэспублікі беларускае грамадзянства, паколькі само выяўляла ініцыятыву, з боку і урадавых чыньнікаў, і шырокіх кругоў грамадзянства сустракала заўсёды моральнае падтрыманьне і матар'яльную дапамогу. Найлепшым выражэньнем права беларусоў на нацыянальна-культурнае разьвіцьцё ў Латвіі зьяўляецца існаваньне (з 13. IX. 1921 г.) пры Міністэрстве Асьветы г. зв. Беларускага Аддзелу, які кіруе ўсёю культурна-асьветнаю працаю беларусоў у Латвіі. Пры Аддзеле пэрыядычна адбываюцца сходы Рады Аддзелу, якая складаецца з кіраўніка Аддзелу і выбраных прадстаўнікоў беларускага вучыцельства і важнейшых культурна грамадзкіх арганізацый. Рада Аддзелу вызначае паасобным школам і арганізацыям дапамогі, якія што год, у парадку буджэтным, асыгнуюцца у распараджэньне Аддзелу з Латвійскага дзяржаўнага фонду (на 1932—1933 буджэтны год асыгнована 71 707 латаў). Пры Аддзеле да мінулага году існаваў інспэктарат дла беларускіх школ.

Абслугоўваньне беларускага насельніцтва выглядае так:

Усіх пачатковых школ беларускіх у Латвіі 38 На 1000 жыхароў прыходзіцца адна пачатковая школа. Агульны лік вучняў у іх перавышае 2000 дзяцей з болш 100 вучыцелямі. Між пачатковымі ёсць некалькі поўных 6 кляс вых школаў. Апрача таго, пры некаторых латышскіх школах існуюць беларускія камплекты. У самай Рызе існуе 3 асноўных пачатковых школы і адна дадатковая вячэрняя школа для дарослых. Беларускія пачатковыя школы ў пераважаючай болшасьці ўтрымліваюцца павятовымі і гарадзкімі самаўрадамі, некалькі прыватных — коштам беларускіх культурна-асьветных арганізацый. Вучні ўсіх беларускіх пачатковых школ атрымліваюць безграшова пісьменныя прылады і падручнікі, а бяднейшыя, апрача таго, вопратку і абутак. Ува ўсіх школах вучням выдаецца безграшова сьнеданьне. На ўсе гэтыя выдаткі асыгнуе грошы Латвійскі Сойм у буджэтным парадку.

Беларускія школы ў Латгаліі (усходняя краіна Латвіі, дзе жывуць беларусы) зьяўляюцца беларускімі ня толькі па свайму назову. Вучыцялі ў іх і інструктары заўсёды беларусы з паходжаньня, выкладовая мова —беларуская, падручнікі — беларускія, усё узгадаваньне ідзе у кірунку народна-беларускім. Латышская мова выкладаецца толькі як прадмет.

Паміж школамі на асаблівую ўвагу заслугоўвае „Рыская бел. дадатковая школа для дарослых", якая заснавалася ў 1927 г. для беларускіх рабочых—бацькоў і старэйшых няпісьменных братоў ды апякуноў вучняў рыскіх пачатковых белар школаў. У школе вучыцца цяпер каля 350 вучняў, якія паступова праходзяць курс 6-ці клясаў асноўнае пачатковае школы Заняткі адбываюцца вячарамі што дзень, па 5 гадзін, апрача суботы. Па сканчэньні школы вучні, якія атрымалі добрую падгатоўку, прыймаюцца на электра-тэхнічны аддзел гэтае-ж школы, якая выпускае электратэхнікаў. У мінулым школьным годзе 6-клясовы курс асноўнае школы скончылі 12 вучняў, а электра-тэхнічны 4 чал. Дадатковая школа ўтрымліваецца на сродкі горада.

Што да сярэдніх школаў у Латвіі, дык іх ёсць 2: дзяржаўная гімназія ў Дзьвінску і прыватная (з поўнымі правамі дзяржаўных) гімназія ў Рызе, утрымліваная Беларускім Вучыцельскім Саюзам, пры грашовай дапамозе Беларускага Аддзелу. Дзьвінская беларуская гімназія заснавалася ў восені 1921 г. і ужо дала 10 выпускаў матурыстаў Гімназія мае ўласны будынак, вельмі добра абарудаваны. Пры гімназіі існуюць для вучняў майстроўні мэханічная, сталярская і ткацкая. Гімназія мае інтэрнат, які утрымліваецца з дзяржаўных сродкаў. Зусім зразумела, што для ўсіх мясцовых і бліжэйшых да Дзьвінску беларусоў і беларускіх культурна-асьветных арганізацый гімназія зьяўляецца значным культурным цэнтрам. — Што да Рыскай прыватнай гімназіі, дык у ёй адчынены пакуль толькі малодшыя клясы; арганізацыя гімназіі дае падставы думаць, што з часам яна будзе на вышыні свайго заданьня — падрыхтоўваць кадры беларускай інтэлігэнцыі для працы ва ўсіх галінах грамадзкага жыцьця.

Для падрыхтоўкі пэдагагічнага пэрсаналу для школ беларускіх існуюць у Рызе 2-гадовыя Дзяржаўныя Вучыцельскія Курсы, якія далі ужо 11 выпускаў курсантаў, працуючых цяпер у беларускіх школах Латвіі. Пры курсах ёсьць інтэрнат, які карыстаецца дапамогаю з дзяржаўнага скарбу.

Аб'яднанае ў „Беларускім Вучыцельскім Саюзе" беларускае настаўніцтва Латвіі для абгаварваньня пэдагагічных пытаньняў і сваіх прафэсіянальных патрэбаў мае магчымасьць час ад часу зьяжджацца на Канфэрэнцыі. Такая Канфэрэнцыя апошні раз адбылася у Дзьвінскай гімназіі 15—16 мінулага чэрвеня.

Мінула 10 год існаваньня беларускай школы ў Латвіі. Хаця разьвіцьцю беларускай школы не раз рабіліся ўсялякага роду перашкоды асабліва з боку польскай і расейскай грамадзкасьці, каб адцягнуць вучняў у польскія і расейскія школы і праз гэта зьліквідаваць беларускае школьніцтва, аднак стойкае чуваньне Аддзелу і ўсяго беларускага грамадзянства адбіла зачесены над беларускаю школаю удар, і беларуская школа ня толькі не зьнішчылася, але пры лепшых эканамічных умовах мае ўсе віды для далейшага пашырэньня і разьвіцьця. Каб адзначыць у сьвядомасьці грамадзянства 10-гадовы юбілей бел. школы ў Латвіі Радаю Беларускага Аддзелу выбрана асобная Юбілейная Камісія, якая ў першую чаргу прыступіла да выданьня прысьвечанага юбілею зборніка-альманаха.

# БЕЛАРУСЫ У ЛІТВЕ.

Дзяржаўны перапіс жыхарства, зроблены ў 1923 г., лічбу беларусоў у Літве падаў усяго 4400. Бязумоўна, гэтая лічба не адпавядае запраўднаму стану рэчаў, і беларусоў у Літве трэба лічыць 45.000 — 40.000. Расейскі перапіс 1897 г. на тэрыторыі сучаснай Літоўскай Рэспублікі налічваў 70.300 беларусоў.

Такое крыўднае для беларусоў непаразуменьне тлумачыцца тым, што пры апошнім перапісу у Літве апіраючысь на верасьведальным прынцыпе беларусаў запісалі часткаю расейцамі (праваслаўных), часткаю палякамі (каталікоў).

Неарганізаванасьць беларускае меншасьці была прычынаю таго, што беларусы ў Літве не стварылі для сябе ніводнае культурна-асьветнае арганізацыі і не дабіліся адчыненьня беларускіх пачатковых і сярэдняе школы. Гэта ўсё адчыняла шырокае поле для пашырэньня сярод беларусоў чужых, уплываў, часам вельмі варожых нацыянальнаму адраджэньню Беларусі.

Толькі ў самы нядаўны час беларусы літоўскія трохі заварушыліся і прыняліся за арганізацыйную працу дзеля аб'яднаньня беларускае меншасьці. 28 лютага б. г. ў Коўне заснавалася „Беларускае Культурна-Асьветнае Таварыства ў Літве", якое ставіць сабе мэтаю: аб'яднаньне беларускай меншасьці на грунце культурна-нацыян. працы, выхаваньне культурна-грамадзкіх дзеячоў і моладзі, зьбліжэньне з літоўскімі грамадзкімі дзеячамі і г. п. На арганізацыйным сходзе было прысутных 37 асоб; сход абраў прэзыдыюм на чале з С. Якавюк'м. Т-ва ужо заснавала свой клюб пад назовам „Беларуская Хатка" і паставіла адзін беларускі спэктакль і канцэрт-баль. З аддзелаў адчынены пакуль адзін ў м. Мэрачы, дзе на арганізацыйным сходзе было прысутных 30 асоб. Пасьля стварэньня адпаведнага ліку аддзелаў, Т-ва мае на мэце склікаць Канфэрэнцыю беларускай меншасьці ў Літве, каб дабіцца адчыненьня беларускіх школ, вучыцельскае сэмінарыі і асыгнаваньня з дзяржаўнага буджэту Літвы сродкаў на беларускую нацыянальна асьветную працу.

Каб рух беларускі ў Літве набыў патрэбнае сілы і магутнасьці, трэба, каб ён ад кружка шчырых беларусаў-інтэлігентаў пайшоў у шырокія сялянскія і рабочыя масы, каб новазаснаванае Т-ва зьвязала сябе і сваю працу з працоўным людам, а не апіралася толькі на нялічныя ў Літве, хаця бы і высока-кваліфікаваныя адзінкі. Калі яно пойдзе па гэтым шляху, жадаем першай беларускай грамадзкай арганізацыі ў Літве добрага пасьпеху.

---

# Да Акружных управаў, гурткоў, усіх сябраў наогул і сьведамага беларускага грамадзянства.

Больш двух з паловай месяцаў прайшло ад выпуску намі 6 ліпеня б. г., „Інформацыйнага Бюлетэню". які быў прыхільна, нават мясцамі (як у Беласточчыне) горача спатканы вашымі сябрамі.

Адчуваем патрэбу больш поўнай і частай інфармацыі нашых сябраў аб справах Т-ва. Паміма гэтага, пры убогасьці беларускай прэсы і слабасьці выдавецкай дзейнасьці, асабліва у галіне популярна-навуковай, ёсьць вялікая патрэба ў часопісі такога характару, акая бы, паміма іншага, давала матар'ял для працы нашых гурткоў.

Уважаючы пільна патрэбным выданье пэрыядычнай, хаця бы месячнай часопісі, пашыранай у параўнаньні з дасюлешнімі Бюлетэнямі у напрамку популярна-навуковым—Галоўная Управа зварочваецца да арганізацыяў Т-ва, агулу сябраў і наогул сьведамага грамадзянства з заклікам аб падтрыманьні такой часопісі як сваім супрацоўніцтвам, так і матар'яльнымі сродкамі у форме прысылкі падпісной платы за пэўны час наперад, хаця бы і невялікімі сумамі.



Выдавец: Т-ВА БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЫ. Рэдактар: Ф. СТЭЦКЕВІЧ.

Drukarnia Jana Bajewskiego, Wilno, Mostowa 9.